• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

**2** ліпеня 1998 г.
чацвер,
№ 135 (23486)

# ЗВЯЗДА



# БЕЛАРУСЬ, узнімі чарку за самае каштоўнае — за СВАБОДУ!

**У другі раз наша краіна будзе адзначаць 3 ліпеня Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень рэспублікі), абвешчаны ўсенародным рэферэндумам у лістападзе пазамінулага года. Напярэдадні афіцыйных урачыстасцяў рэдакцыя правяла невялікае апытанне сярод сваіх даўніх падпісчыкаў, якія, калі ўдзельнічалі ў адным са «звяздоўскіх» конкурсаў, пакінулі нам свае каардынаты. Дарэчы, усе, да каго мы звярнуліся, падоўжылі падпіску — хто на квартал, хто на паўгода. Гэтая даўняя сувязь паміж газетай і тымі, хто даўно яе чытае, дала падставы для шчырай размовы. Мы звярнуліся да канкрэтных людзей, гаварылі аб іх рэальных жыццёвых клопатах, аб тым, чым сёння жывуць простыя працаўнікі ў розных куточках нашай краіны. Адносна чакаемых урачыстасцяў задавалі ўсім аднолькавыя пытанні: *«Што асабіста для вас азначае 3 ліпеня — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь?»* і *«Як вы будзеце адзначаць гэтае свята?»***

**Аркадзь Аляксандравіч ГАЙДУК, вёска Калюжыца Бярэзінскага раёна:**

— Гэта вялікае свята, найперш — дзень вызвалення. Я ведаю, што такое вайна. Калі яна пачалася, мне было 13,5 года, я быў у партызанскай зоне, зведаў і зямлянкі, і ўцёкі ад немцаў пад кулямі. Цяжка ўявіць, што было б, каб перамог Гітлер... Чаму я стаўлю на першае месца вызваленне? Незалежнасць, канешне, справа добрая, але яна лепш бы адчувалася, калі б мы жылі крыху лепш матэрыяльна. Галоўнае, лічу, каб не было вайны, каб над галавой было блакітнае неба.

— Як буду адзначаць свята? Калі будзе надвор'е, будзем касіць сена. Па радыё, зразумела, паслухаем, як будуць святкаваць у сталіцы. Хоць на душы стане весялей...

**Мікалай Аляксандравіч БАГАМАЗ, Крупкі:**

— Для мяне гэтае свята ў першую чаргу звязана з днём вызвалення Мінска. Мой бацька, які, на жаль, ужо памёр, удзельнік вайны, ён шмат расказваў мне пра той час. Гэта адно з нашых галоўных святаў, бо падчас вайны загінуў кожны трэці. Галоўнае, быў выратаваны ад гітлераўскага генацыду наш народ. Найперш трэба памятаць менавіта аб гэтым. Таму, лічу, не зусім удала адначасова мы адзначаем яшчэ і Дзень Незалежнасці.

— Канешне адзначу! Па-нашаму, па-беларуску: каб на стале была і бульбіна, і скварка, і чарка!

**Лідзія Аляксееўна ПЯТРЫШЧА, Віцебск:**

— Асабіста для мяне гэтае свята — Дзень Незалежнасці — мала што азначае. Ходзіш па горадзе, шукаеш танныя косткі, пра садавіну і агародніну не гавару — не па кішэні. Ніжнюю бялізну купіць немагчыма, верхняя ж наогул каштуе шалёныя грошы. Няма ніякага жыцця... Жабрацкія пенсіі... Калі нам аддадуць грошы, што прапалі на кніжках? Тэлевізар сапсаваўся, серыял даводзіцца ісці глядзець да суседкі. У маладосці я адна сабрала грошай на кааператыўную кватэру. У СССР жылося лепш, — нас абакралі... Моладзь, якая скончыла ВНУ і мае вышэйшую адукацыю, мае аклад 1,5 мільёна рублёў — як у таго дворніка? І ўсё гэта — незалежнасць?!

**Алена Леанідаўна СЕМАК, в. Цёсава Салігорскага раёна:**

— З чым атаясамліваю Дзень Незалежнасці? Са свабодай, дэмакратыяй... З днём вызвалення таксама, бо незалежнасці не было б, каб мы не перамаглі. Адно свята вынікае з другога. А ў нашай школе на 3 ліпеня прыпадае яшчэ і трэцяя ўрачыстасць: менавіта ў гэты дзень вырашылі сабрацца разам выпускнікі, якія скончылі школу 15 гадоў таму.

— Адзначаць? Працоўнымі буднямі — трэба ехаць да бацькоў дапамагаць па гаспадарцы.

**Аляксандр ФУРМАН, 13 гадоў, Пінск:**

— У гэты дзень Мінск вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, гэта вялікае свята для ўсіх.

— Спачатку ў нас на гарадской плошчы будуць ускладаць вянкі да помніка, вечарам будзе канцэрт. Там будзе і моладзь, пайду і я.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ВІНШАВАННЕ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ У СУВЯЗІ СА СВЯТКАВАННЕМ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (ДНЯ РЭСПУБЛІКІ)

*Дарагія суайчыннікі!*

*Сёння наша краіна, увесь беларускі народ урачыста адзначаюць светлае і радаснае свята — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі). Нягледзячы на сваю маладосць, яно ўжо ўвайшло ў кожны дом, у кожную сям'ю, стала сапраўды агульным нацыянальным набыткам. Па волі народа яно адзначаецца ў гадавіну вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Менавіта 3 ліпеня над Мінскам узняўся доўгачаканы пераможны сцяг.*

*У шчаслівым зліцці дзвюх знамянальных дат закладзены вялікі маральны і патрыятычны сэнс. Пільна ўглядаючыся ў глыбіню стагоддзяў, мы далучаемся да вопыту і мудрасці продкаў. І цудоўна ўсведамляем, што каля вытокаў беларускай дзяржаўнасці стала вечная ідэя славянскага яднання, якая бярэ пачатак у гісторыі Полацкай зямлі і Вялікага княства Літоўскага. Суровыя выпрабаванні яна прайшла ў Грунвальдскай і наступных бітвах, на франтах грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, увасобілася ў класічных творах беларускіх пісьменнікаў, мастакоў і кампазітараў.*

*Горды, свабодалюбівы і гераічны народ, які ад малога да вялікага ўстаў на смяротны бой, знішчыў фашысцкую цёмную сілу, паказаўшы свету ўзоры бяспрыкладнай мужнасці і найвялікшай стойкасці.*

*Аддаючы даніну глыбокай удзячнасці тым, хто не вярнуўся з палёў бітваў, хто ў неймаверна цяжкіх умовах адраджаў гарады і вёскі, наш народ поўны рашучасці цывілізаваным і дэмакратычным чынам упарадкаваць сваю дзяржаву ў інтарэсах чалавека працы. Сёння ў Беларусі забяспечаны ўсе асноўныя правы і свабоды, захаванне якіх стварае грамадзянам неабходныя ўмовы для рэалізацыі ў поўным аб'ёме сваіх магчымасцяў і здольнасцяў.*

*Наш народ шчодра надзелены талентам, мудрасцю, працавітасцю і энергіяй, дзякуючы чаму краіна ўпэўнена набірае аўтарытэт і павагу, усё больш актыўна заяўляе аб сабе на міжнароднай арэне.*

*Рэспубліка Беларусь жыве паўнакроўным жыццём, развіваецца, будуецца. Гэта нараджае сацыяльны аптымізм, усяляе ва ўсіх нас упэўненасць у лепшую будучыню нашай дзяржавы.*

*Новыя гарызонты для стварэння адкрываюць інтэграцыя з Расіяй, якая набірае сілу і дынамізм, дзелавыя сувязі з іншымі замежнымі краінамі. Курс на ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва садзейнічае ажыўленню гаспадарчай дзейнасці, дае магчымасць абменьвацца тэхнічнымі, навуковымі і культурнымі дасягненнямі.*

*Беларуская дзяржава праводзіць шматвектарную знешнюю палітыку. Мы хочам жыць у міры і дружбе з усімі дзяржавамі і не прымаем націску, у якіх бы формах ён ні праяўляўся.*

*Ад усёй душы жадаю вам, дарагія суграмадзяне, святочнага настрою, шчасця і дабрабыту ў жыцці, новых поспехаў у працы на карысць нашай любімай Айчыны.*

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**
3 ліпеня 1998 года

### Заўтра мы будзем святкаваць Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

***Свята новае — і ў той жа час не зусім новае: 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, сапраўды дзень незалежнасці. Калі б не пераможныя 1944-ы і 1945-ы — невядома, які б лёс напаткаў Беларусь... І напярэдадні свята яшчэ раз узгадаем: менавіта за стойкае супраціўленне фашысцкім захопнікам наша рэспубліка, знаходзячыся ў складзе СССР, стала адным з заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.***

***Успомнім усіх, хто змагаўся за Радзіму. Да зямлі паклонімся тым, хто адбудоўваў Беларусь з руін і попелу. Гледзячы на здымкі разбуранага Мінска, дзіву даешся, колькі можна зрабіць за паўстагоддзя!***

***Напярэдадні свята мы сустрэліся з чалавекам, які мае да ўсяго гэтага самае непасрэднае дачыненне.***

(Чытайце 3-ю старонку)



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## Маладыя ў маладой краіне

### ТЭЛЕФОННАЯ РАЗМОВА ДВУХ ПРЭЗІДЭНТАЎ

Як паведаміла ў БЕЛТА прэс-служба прэзідэнта нашай краіны, 1 ліпеня адбылася тэлефонная размова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам.

Кіраўнікі дзяржаў абмеркавалі пытанні двухбаковага эканамічнага і палітычнага супрацоўніцтва, а таксама ўзаемаадносіны з міжнароднымі фінансавымі і эканамічнымі арганізацыямі.

У ходзе гутаркі шмат увагі было ўдзелена правядзенню 21—28 ліпеня гэтага года традыцыйнага міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Леанід Кучма адзначыў, што на фестываль у абавязковым парадку будзе накіравана вялікая група творчай інтэлігенцыі Украіны.

**БЕЛТА.**

***ПАДРАБЯЗНАСЦІ***

### «Грымнулі» ў тэлеэфір, не заглянуўшы ў пашпарт

***Расійскія тэлежурналісты пераблыталі сваіх абрабаваных суайчыннікаў з беларусамі***

Нагадаем, што 30 чэрвеня расійскія тэлеканалы паведамілі аб разбойным нападзе на аўтобус з польскімі нумарамі, у якім нібыта знаходзіліся грамадзяне Беларусі. Праўда, гэтую інфармацыю не пацвердзілі ў беларускай амбасадзе ў Аўстрыі. Тым не менш, расійскія журналісты «грымнулі» ў тэлеэфір.

Аднак, як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў аддзеле інфармацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі, ахвярамі разбойнага нападу на турыстычны аўтобус сталі зусім не беларускія грамадзяне, а ... расіяне. У нацыянальным бюро Інтэрпола карэспандэнту «Звязды» паведамілі, што і да іх не паступала інфармацыя аб нападзе на беларускіх турыстаў у Аўстрыі.

Такім чынам, падстаў для трывогі ў нашых суграмадзян няма. Зрэшты, і для расіян, якія аказаліся ў тым злашчасным аўтобусе, таксама ўсё скончылася добра. Ніхто з турыстаў не атрымаў сур'ёзных пашкоджанняў, а злачынцы ў той жа дзень былі затрыманы на аўстрыйскай мяжы.

Дарэчы, як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў МУС Беларусі, нашы грамадзяне часцей за ўсё становяцца ахвярамі разбойных нападаў у суседняй Польшчы. У самой Беларусі, дзякуючы намаганням міліцыі, удалося істотна зменшыць «хвалю» дарожных разбояў.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

***ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...***

## У БАРЫСАВЕ СПЫНІЛАСЯ ЗАПАЛКАВАЯ ФАБРЫКА

**Каб удакладніць гэтую інфармацыю і высветліць, ці не пацерпіць ад гэтага ўнутраны рынак краіны, калі яна адпавядае рэчаіснасці, рэдакцыя звярнулася па каментарыі да намесніка дырэктара прадпрыемства Мікалая Сяргеева.**

— Магчыма, узнікненню такіх чутак паспрыяла зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці запалак, — паведаміў Мікалай Лукіч. — Як вядома, наша прадпрыемства складаецца з некалькіх вытворчасцяў. Сапраўды, з 6 ліпеня на капітальны рамонт зачыняюцца фанерны цэх і цэх ДВП. Доўжыцца ён будзе месяц. Запалкавую вытворчасць мы пускаем на бягучы рамонт, г. зн. працаваць яна будзе, але са скарачэннем аб'ёму выпуску гатовай прадукцыі недзе на трэць. На думку Мікалая Сяргеева, спажывецкі рынак ад гэтага не пацерпіць. Хаця гатовая прадукцыя на складах прадпрыемства не залежваецца, а ідзе ў гандаль практычна з «колаў». Адчувае фабрыка і праблему з сыравінай: на момант гутаркі, як заўважыў намеснік дырэктара, на складах яе было толькі на 2-3 працоўныя дні.

Мікалай Лукіч не пагадзіўся, што яшчэ адной магчымай крыніцай з'яўлення чутак адносна спынення прадпрыемства стала інфармацыя аб нібыта больш жорсткіх патрабаваннях да стандартызацыі гэтай прадукцыі. «Пры прадпрыемстве ўжо два гады акрэдытавана лабараторыя для сертыфікацыі, чые даныя потым зацвярджаюць вышэйстаячыя органы Белдзяржстандарта», — заявіў Мікалай Сяргееў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# ДЭПУТАТЫ ІДУЦЬ НА КАНІКУЛЫ. ДА ВОСЕНІ

30 чэрвеня IV сесія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу завяршыла сваю работу. Учора на сустрэчы з журналістамі аб яе выніках распавёў старшыня Палаты прадстаўнікоў Анатоль Малафееў.

Колькі лічбаў. За час правядзення сесіі — з красавіка па чэрвень — дэпутаты большасцю галасоў падтрымалі 109 законапраектаў. 46 з іх было прынята ў першым чытанні, прычым, на думку А. Малафеева, асаблівай увагі заслугоўвае той факт, што першае чытанне «прайшлі» адразу 5 кодэксаў. Палаце прадстаўнікоў удалося правесці 4 парламенцкія слуханні і ратыфікаваць 16 міжнародных дамоў і пагадненняў.

Разам з гэтым, па словах старшыні, засталася і поўная незадаволенасць, якая перш-наперш звязана з тым, што некаторыя законапраекты трапляюць у Палату прадстаўнікоў недастаткова падрыхтаванымі. Як вынік, дэпутаты вымушаны звяртацца да іх па некалькі разоў.

Наступная, пятая па ліку, сесія Палаты прадстаўнікоў пачне сваю работу на пачатку кастрычніка і, як паведаміў Анатоль Малафееў, асноўным на ёй павінен стаць блок эканамічных законапраектаў. Было выказана меркаванне, што дэпутаты восенню ўсё ж здолеюць прыняць доўгачаканы Крымінальны кодэкс, а таксама Закон аб ветэранах.

**Сяргей ГРЫБ.**

# «ДВОР ЗДЗІЦЕЛА» СВЯТКУЕ ЮБІЛЕЙ

**Каб не было загадкай, патлумачым адразу: «Двор Здзіцела» — пад такой назвай вядома першае пісьмовае ўпамінанне пра сучаснае Дятлава (1498 год). Сёлета — 500-гадовы юбілей старажытнага паселішча. А ў дзятлаўцаў у гэтыя дні — вялікае свята.**

Урачыстаму мітынгу на плошчы 17 верасня будзе папярэднічаць свята духавой музыкі. Два новыя помнікі будуць адкрыты ў Дзятлаве — да 500-годдзя горада і помнік воінам-вызваліцелям. У праграме свята — вернісаж «Мая Дзятлаўшчына», гала-канцэрт на вольным паветры, сустрэчы са знакамітымі ўраджэнцамі Дзятлава і Дзятлаўшчыны. У гонар 500-гадовага юбілею горада выдавецтва «Кліч» выпусціла прыгожы каляровы буклет, а таксама каляндар.

Якімі Дзятлаўскі край, Дзятлава сустракаюць 500-гадовы юбілей? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да старшыні Дзятлаўскага райвыканкама Мечыслава Касцюка.

— Хаця і нэпросты зараз час, мы не губляем аптымізму. Тым болей, што бачым, якія намаганні для паляпшэння сацыяльна-эканамічнага становішча прыкладае кіраўніцтва краіны. Ня́дрэнна працуюць прамысловыя прадпрыемствы раёна. Добрых слоў заслугоўвае і плён працы вяскоўцаў. І ўжо не так уцякаюць маладыя людзі ў горад, а застаюцца працаваць у калгасах. Прычына, відавочна, і ў тым, што кіраўнікі гаспадарак рупяцца, каб і клубы працавалі, каб людзі нейкім чынам жыллёвае пытанне вырашалі. Словам, жывём з клопатамі пра заўтрашні дзень. Верым, што напарадзе ў нашай дзятлаўскай старонкі — багатая і шчаслівая доля.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# «НЕ ПІ МАЛАЧКО — КАЗЛЯНЯТКАМ СТАНЕШ!»

У Віцебску некаторыя гарадскія гандлёвыя кропкі рацыянальна падышлі да пытання рэалізацыі тавараў, тэрмін захоўвання якіх скончыўся, у прыватнасці, малочных вырабаў. Дык вось, каб «дабро» марна не прападала, прадпрымальныя віцебскія прадаўцы змешваюць партыю свежага тавару са старым, з дапамогай этыкет-пісталетаў заклейваюць тэрмін рэалізацыі прадукту яго цаной, а то і ўвогуле новым тэрмінам захоўвання. У асноўным гэта датычыць малака, кефіру і тварожнага крэму. Гандаль на вуліцы таксама прыносіць многа непрыемнасцяў гарадскому цэнтру гігіены і эпідэміялогіі. Мала таго што гандлююць у неўстаноўленых месцы і забароненым таварам, дык здараюцца выпадкі гандлю без дакументаў, гэта значыць у прадаўца адсутнічае нават асабістая санітарная кніжка. Праўда, работнікі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі адзначаюць павышаную цікавасць да сваіх спажывецкіх правоў, і практычна штодзённа ў цэнтр паступаюць аб'ектыўныя, правільна сфармуляваныя заявы аб продажы няякаснага тавару ці незахаванні тым ці іншым суб'ектам гаспадарання нормаў санітарнай гігіены. У сваю чаргу супрацоўнікі цэнтра за пяць месяцаў гэтага года зрабілі каля пяцісот рэйдавых праверак гандлёвых кропак і прадпрыемстваў грамадскага харчавання, у выніку чаго да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 422 работнікі, у 44 выпадках прыпынена эксплуатацыя аб'ектаў, знята з рэалізацыі 3811 кг харчовых прадуктаў, і ўжо ёсць 11 прэтэндэнтаў на адабранне пасведчання аб прадпрымальніцкай дзейнасці. Так што пакупнікам трэба адказна ставіцца да набыцця прадуктаў харчавання і, адпаведна, да свайго здароўя.

**Аляксандра ВІШНЕЎСКАЯ.**

*СОЦЫУМ*

# ЦЭХІ Ў ЖЫЛЫХ ДАМАХ ХУТКА БУДУЦЬ АФІЦЫЙНА ЗАБАРОНЕНЫ

У адным з артыкулаў прынятага парламентарыямі ў першым чытанні праекта Жыллёвага кодэкса гаворка ідзе аб скасаванні дагавора найму жылога памяшкання па ініцыятыве наймадаўцы. Па-першае, высяляюцца жыхары ў дамах, што пагражаюць абвалам. Гэта экстранная сітуацыя. Другі пункт больш балючы: высяленне адбываецца ў тым выпадку, «калі наймальнік, члены яго сям'і ці іншыя, хто з ім сумесна пражывае, сістэматычна разбураюць ці псуюць жылое памяшканне, ці выкарыстоўваюць яго не па прызначэнню, ці сістэматычным парушэннем правілаў карыстання робяць немагчымым для іншых пражыванне з імі ў адной кватэры ці доме, а меры папярэджання і грамадскага ўздзеяння аказаліся безвыніковымі».

Тут маюцца на ўвазе дзве катэгорыі грамадзян, якія падпадаюць пад высяленне (альбо, як варыянт, пад прымусовае перасяленне). Па-першае, гэта маргіналы — асобы, што знаходзяцца на самым нізе сацыяльнай лесвіцы. Яны псуюць сваю кватэру пад уплывам «бахуса». Таксама перасяляюць на свой страх і рызыку і раней.

Так, напрыклад, у Цэнтральным раёне беларускай сталіцы быў выпадак, калі гаспадар проста прапіў сваю газавую пліту, а замест яе з цаглін пабудаваў печку. Дым пры гэтым выходзіў у фортку, і аднойчы суседзі проста выклікалі службу «01». Уяўляеце сабе рэакцыю, калі, высадзіўшы шыбу, «рыцары агню» ўлезлі ў кватэру алкаголіка-«герастрата»?

Такія прыклады можна прыводзіць доўга — амаль у кожным доме ёсць свой «свавольнік». Пастаянныя скандалы, гучныя «пікнікі», «жыўнасць», што актыўна распаўсюджваецца адсюль па ўсім доме, — вось далёка не поўны пералік вынікаў іх «дзейнасці». Метады ўздзеяння, як лічаць не толькі супрацоўнікі жыллёва-камунальных службаў, але і звычайныя жыхары, сёння вельмі мяккія.

Адключэння камунальных паслуг ужо яўна недастаткова — з «роднай» бутэлькай людзі, па словах супрацоўнікаў ЖЭСаў, жывуць і без электрычнасці, і без газу. Хтосьці ў свой час падказаў ім прыватызаваць уласную кватэру, каб потым не выселілі, — вось і падступіся да іх сёння.

Сапраўды, для асобных катэгорый насельніцтва плата за камунальныя паслугі высокая, магчыма, што і кампенсацыі ў выглядзе безнаяўных жыллёвых субсідый, якія выдзяляюцца са сродкаў рэспубліканскага бюджэту, не вырашаюць справу...

Другая катэгорыя, пра якую ідзе гаворка ў артыкуле, — прадпрымальнікі, што пераварвалі звычайныя кватэры ў вытворчыя плошчы. Менавіта аб іх гаворыцца: «выкарыстоўваюць жылыя памяшканні не па прызначэнню». Зрэшты, ніхто не забараняў шыць пальчаткі ва ўласнай кватэры. Такая дзейнасць не перашкаджае суседзям. А калі побач з вамі за сцяной шыюць скураныя курткі і стракочуць увесь дзень машынкі? Дарэчы, скаргі на такія цэхі даволі часта трапляюць да спецыялістаў ЖЭСаў. Калі ўзяць «за зябры» маргінала ўжо амаль немагчыма, то прадпрымальнікаў няма чаго і казаць — усё «шыта-крыта». Ва ўладных кабінетах ужо даўно гаварылася аб стварэнні адпаведнага дакумента, які б забараніў дзейнасць цэхаў у жылых дамах. І сапраўды — выгадна не плаціць грошы за арэнду, а ўласную кватэру чаму не здаць сваю кватэру пад вытворчы офіс? Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», у хуткім часе павінна быць прынята спецыяльная пастанова ўрада, у адпаведнасці з якой будзе забаронена займацца дзейнасцю, што робіць немагчымым пражыванне, ствараe шум.

Узвядзенне праблемы на дзяржаўны ўзровень — моцны штуршок да яе вырашэння. Магчыма, менавіта так адбудзецца і ў выпадку з «актыўнымі» суседзямі.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## Аргенцінцы рыхтуюцца дайсці да фіналу

Апошні, восьмы чвэрцьфіналіст чэмпіянату свету па футболу вызначыўся апоўначы ў мінулы аўторак. Гэтай камандай стала зборная Аргенціны, якая толькі па серыі пенальці змагла адолець англічан. Цяпер двухразовых чэмпіёнаў свету чакае «вочная стаўка» з галандцамі. Яшчэ адну пару склалі футбалісты Германіі і Харватыі. Апошнія, дзякуючы дакладнаму ўдару з 11-метровага Давора Шукера, «выбілі» з 1/8 фіналу румынаў.

Стан, блізкі да шоку, зведалі многія брытанскія балельшчыкі пасля заканчэння матча Англія — Аргенціна. У чарговы раз іх надзеі адрадзіць славу радзімы футбола не збыліся, прычым трэці раз за апошнія 8 гадоў лёс англічан вырашылі паслямачавыя пенальці. Так яны прайгралі ў фінале чэмпіянату свету-90 зборнай Германіі, а затым у 1996 годзе, на «дамашнім» першынстве Еўропы, — зноў жа немцам.

Большасць балельшчыкаў галоўным віноўнікам пройгрышу аргенцінцам лічаць Дэвіда Бекхэма, які быў выдалены на пачатку другога тайма.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# УДЗЕЛ БЕЛАРУСІ Ў ДЗЕЙНАСЦІ МІЖНАРОДНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ У 1997 ГОДЗЕ АБЫШОЎСЯ ЁЙ АМАЛЬ У 19 МІЛЬЁНАЎ ДОЛАРАЎ

**Расходы валютных асігнаванняў на фінансаванне ўдзелу Беларусі ў дзейнасці розных міжнародных арганізацый ў 1997 годзе склалі каля 19 млн. долараў; планаваўся ж 21 мільён. Пра гэта паведамляецца ў Тлумачальнай запісцы да праваздачы аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за 1997 год.**

Найбольшы ўзнос Беларусі летась прыпаў на фінансаванне ўдзелу ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У рэгулярны бюджэт ААН было ўнесена 6 млн. 200 тыс. долараў. Наступныя па велічыні былі расходы на ўдзел рэспублікі ў розных структурах ААН: ЮНЕСКО — крыху больш за 4 млн. долараў; Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) і Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) — прыкладна па 2 млн. долараў; ЮНІДО — 900 тыс. долараў. Узнос у Сусветную метэаралагічную арганізацыю склаў летась 536 тыс. долараў, у Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ) і Арганізацыю па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ) — па 400 тыс. долараў, у Падрыхтоўчую камісію па забароне хімічнай зброі — 200 тысяч і Міжнародную арганізацыю грамадзянскай авіяцыі (ІКАО) — 190 тыс. долараў. На`аперацыі па падтрыманню міру летась Беларусь выдаткавала прыкладна 1 млн. 250 тыс. долараў.

На ўдзел рэспублікі ў Міжпарламенцкім саюзе, членства ў якім з цяжкасцю ўдалося аднавіць Нацыянальнай групе беларускага парламента ў 1997 годзе, была выдаткавана 31 тыс. долараў. У 8 тыс. долараў абышоўся ўдзел рэспублікі ў дзейнасці Савета Еўропы.

**Алег САКАЛОЎ,
БелаПАН..**

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# ОЙ, ВЯРБІЧАНЬКА, БЕЛА ЛІЧАНЬКА

Лірычную песню «Ой, вярбічанька, бела лічанька» Уладзімір Раговіч запісаў у 1983 годзе на Століншчыне, у вёсцы Лядзец.

Уладзімір Раговіч падрыхтаваў песню да публікацыі і ўключыў яе ў «Вянок беларускіх народных песень» (1988). Цяпер гэты выдатны збіральнік фальклору працуе над выпускам грунтоўнага выдання беларускіх народных песень (у 3-х тамах), дзе тэксты будуць пададзены на дыялектнай мове.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ

*Ой, вярбічанька, бела лічанька,*
*Цёмна хваля з-пад вясла.*
*Як мы кахаліся*
*да й не пабраліся,*
*Дарожка дзёрная зарасла*.*

*Голас мілага, незрадлівага*
*Нежна клікаў мяне ўдаль.*
*Звінеў за хатаю травою-мятаю,*
*Падараваў журбу і жаль.*

*Ён з чарняваю да й з бяляваю*
*Дзівіць сэрданька свае.*
*А мне на ганачку*
*аж да світаначку*
*Сумна зязюлька куе.*

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

**СЁННЯ**

**ІМЯНІНЫ**

**ПР. Іуды, Іова, Паісія**

**К. Марыі, Урбана**

**МЕСЯЦ**

**Першая квадра 1 ліпеня**

*З 13.20 — 9-ыя месяцавыя суткі.*
*Месяц — у сузор'і Шаляў.*

**НАДВОР`Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 17—19, Магілёве — 18—20, Мінску, Гродне, Гомелі — 19—21, Брэсце — 20—22 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, 3-га — месцамі, 4-га — пераважна па поўначы рэспублікі пройдуць кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Тэмпература ўначы — 9—14, удзень — 17—22 градусы вышэй нуля.

# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

Менавіта ў той момант, калі ў КАЗЯРОГА ўсе акалічнасці складваюцца надзвычай добра, хтосьці з блізкага акружэння можа «падставіць ножку». Таму ва ўсім разлічвайце на ўласныя сілы. Магчыма, нячысцік пачне падштурхоўваць на нейкі імпульсіўны ўчынак — ганіце прэч спрадвечнага ворага роду чалавечага. Хтосьці з вас заказаецца, як кажуць, «па вушы».

ВАДАЛЕЙ ўрэгулюе ўсе асабістыя праблемы і пачне нейкую новую справу. У вас наўрад ці знойдуцца надзейныя партнёры, таму дзейнічаць давядзецца адному. З гэтага тыдня ў вас пачынаецца`перыяд, спрыяльны ў фінансавых адносінах. Асцерагайцеся шчырых, але некампетэнтных дарадчыкаў. Верагодна, у паняздзелак вас захліне новае рамантычнае захапленне.

РЫБЫ рызыкуюць вельмі накладзіцца самім сабе, калі зоймуць даволі агрэсіўную пазіцыю ў адносінах да партнёраў у бізнесе ці сексе. Вы страціце вельмі многае. Змена ўрадавай палітыкі ў сферы вашай дзейнасці можа ўдарыць па вашых інтарэсах. Калі на гэтым тыдні ўзнікне судовая цяганіна, яна завершыцца на вашу карысць. Пачуцці каханю нікога асаблівыя.

У АВЕНА на змену вырашаным праблемам прыйдуць новыя вырашэння. Устрымайцеся на гэтым тыдні ад падпісання дакументаў, заключэння здзелак і буйных фінансавых аперацый. Вам лепш пастаянна знаходзіцца за чыёйсьці надзейнай спіной. Дзелавая паездка праціпаказана. Аптымальна спосаб бавіць час — гэта сустрэча з сябрамі. Вельмі верагодна, што вас напаткае новае каханне.

ЦЯЛЕЦ, магчыма, атрымае нечаканую інфармацыю, якая калі і не пераверне ўсё жыццё, то напэўна прымусіць пераглядзець многія жыццёвыя планы. Можаце страціць палову грошай, укладзеных раней у нейкую справу. Не сумуйце, але падзякуйце Богу за тое, што не страцілі ўсё. Даўнія каханні вырашаць замацаваць свае адносіны шлюбным саюзам.

БЛІЗНЯТЫ атрымаюць на рабоце поўную свабоду дзеянняў. Верагодна, вас пачнуць змяняваць у іншую фірму ці арганізацыю. Не бачыце астралогу, тут больш «супраць», чым «за». На цяперашнім месцы маеце рэальны шанц дабіцца значнага прагрэсу. Здзелка з нерухомасцю прынясе значны прыбытак.

У РАКА ёсць моцнае жаданне хоць штосьці памяняць у сваім жыцці — работу, кватэру, мэблю, любоўнага партнёра. Калі ў новых абставінах вы акажацеся ў цесных адносінах з асобай процілеглага полу, чыё імя пачынаецца на Б, Р ці С, маеце рэальны шанц дабіцца поспеху. Верагодна, дома вас замучаць госці. Ні ў якім разе не наведвайце варажбітку ці спірытычны сеанс.

ЛЕЎ, які практыкуе метад спроб і памылак, трапіць пад спрыяльнае размяшчэнне планет. Эксперыментуйце, у большасці спроб вам будзе паслана ўдача. Любая даследчая работа прынясе добрыя вынікі. Поспех будзе мець палітык, чые думкі чыстыя, а мэты высакародныя. Муж і жонка з вялікім сямейным стажам перажывуць нечаканы сексуальны выбух.

ДЗЕВЕ даруецца тыдзень, спрыяльны ў фінансавых адносінах. Вы гэта адчуеце 7 або 9 ліпеня. Паспрабуйце купіць у гэтыя дні дзесятак латарэйных білетаў — высокая верагоднасць выйгрышу. Хутчэй за ўсё, у гэтыя ж дні апраўдае сябе нейкая не без рызыкі здзелка. Для закаханых хутка прагучыць вясельны марш Мендэльсона. Кароткі водпуск прынясе толькі задавальненне.

На абедзвюх чашах ШАЛЯЎ — штодзённая нудная руціна. Што ж, часам прыходзіцца займацца і ёю. Калі з новым дзелавым партнёрам не зусім складваюцца адносіны, запрасіце яго правесці вечар у неафіцыйнай абстаноўцы — лёд растане. Выпадковая размова выльецца ў нейкае прасвятленне, звязанае з фінансамі. У каханні дасягнеце большага, чым спадзяваліся.

Нейкія замарочкі прымусяць СКАРПІЁНА на хаду мяняць раней намечаныя планы і рабочы распарадак. Самае галоўнае вызначыць прыярытэты і не размяньвацца на дробязі. Інтуіцыя павінна падказаць аптымальны напрамак прыкладання сіл. У дамы з'явіцца моцнае жаданне зрабіць дарагую пакупку — на дадзеным этапе яна будзе карыснай. Магчыма лёгкае недамаганне.

Большасць СТРАЛЬЦОЎ амаль напэўна атрымаюць нечаканыя грошы. Калі хочаце ўкласці іх у новую справу, рабіце стаўкі на кароткатэрміновы перыяд, бо цяпер работа на далёкую перспектыву можа абярнуцца стратамі. Акалічнасці асабістага жыцця набудуць бурны характар. Не знаёмце свайго новага каханка з сябрамі ці сяброўкамі, калі не жадаеце разбіць уласнае сэрца.

**Сяргей БУЛАНЦАЎ,
кар. ІТАР—ТАСС,**

*Дэлі.*

ЗВЯЗДА
2 ліпеня 1998 г.



***Аляксандра Трыфанавіча Кузьміна многія помняць як сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі. У нашу шалёную эпоху ўспамінаць добрым словам «былых» у журналістаў лічыцца амаль што прыметаю дрэннага густу, але пра Кузьміна чула шмат добрага: апякаў таленавітых творцаў, падтрымліваў энтузіястаў, абараняў справядлівасць. На працягу амаль двух дзесяцігоддзяў Кузьмін быў побач з Машэравым — у выдатна падабранай камандзе моцных інтэлектуалаў, якія шчыра працавалі ў імя Бацькаўшчыны. За гэтымі, здавалася б трывіяльнымі словамі — канкрэтныя справы, падзеі, учынкі...***

***Не многія ведаюць, што Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін — чалавек з незвычайнай ваеннай біяграфіяй. У 1940 годзе скончыў Краснадарскае авіяцыйнае вучылішча штурманаў (вясковы юнак з Кіраўскага раёна трапіў туды па камсамольскаму набору), многа разоў быў на валаску ад смерці ў бязлітаснай паветранай вайне з фашыстамі.***

***У ліпені Кузьміну споўніцца 80. Але дзіўным чынам гэты чалавек здолеў падмануць узрост — выглядае намнога маладзейшым.***

# МІНСК МОГ БЫЦЬ ПАБУДАВАНЫ Ў ЧЫСТЫМ ПОЛІ — РУІНЫ ЗАСТАЛІСЯ Б НА ВЯКІ...

**— Аляксандр Трыфанавіч, можа, вы ведаеце нейкі асаблівы сакрэт жыццястойкасці?**

— Сакрэт просты: я ніколі не стараўся падманіць прыроду, не баюся ні старасці, ні смерці. Між іншым, не трэба звыш меры клапаціцца пра здароўе — тады яно будзе лепшым. А калі ты жывеш: не дай Божа, прастудзіцца, а калі лякарства прапісалі — дык жменямі, а калі раяць абмежаваць сябе ў салёнай ці салодкай ежы — дык не есці гэтага зусім... Усё гэта дае адваротны эфект. Я вяду нармальны лад жыцця: як складваецца, так і жыву. Зразумела, не апошнюю ролю адыгрывае спадчыннасць: мае бабуля і маці пражылі больш чым па сто гадоў.

**— Не п'яце і не курыце?**

— 56 гадоў курыў, нядаўна кінуў: арганізм перастаў прымаць курыва.

**— А спіртное?**

— Калі давядзецца, дык вып'ю, а што тут такога?

**— Са старасцю — усё зразумела. Але ж вам не аднойчы даводзілася быць сам-насам са смерцю?**

— Я адношуся да той часткі ветэранаў, якой у першыя гады вайны выпала, нягледзячы на мужнасць, стойкасць, а часта самаахвярнасць, цяжкая доля адступаць. Абсалютная большасць з іх ніколі не спраўлялі свята Перамогі. Наш полк ваяваў у складзе 4-й Паветранай арміі Закаўказскага (Паўночная група войскаў) фронту, тэрытарыяльна гэта цяперашняя Чачня, Інгушэція, Асеція і Кабарда. Абарончыя баі лета 1942 года былі цяжкімі. Наземныя войскі і паветраныя сілы неслі вялікія страты. Загінулі амаль усе штурманы — выхаванцы Краснадарскага ваеннага авіяцыйнага вучылішча, а гэта амаль тры дзесяткі чалавек (пасля заканчэння вучылішча яны, як і я, былі накіраваны ў 230-ы бамбардзіровачны авіяполк і затым тыя, хто застаўся жывымі, склалі першы састаў 277-га палка, яго камандзірам быў прызначаны беларус Сяргей Пятровіч Кужалеў. Родам ён з вёскі Макаўка Бялыніцкага раёна. Кужалева мы любілі і паважалі за выдатнае лётнае майстэрства, за адукаванасць, за сумленнасць. Ён быў узорам для падначаленых. На жаль, загінуў. Можа, каб больш такіх людзей вярнуліся з вайны, інакш склалася б і пасляваенная гісторыя Савецкай дзяржавы.

**— Вам пашанцавала застацца ў жывых... Гэта падарунак лёсу або выпадак?**

— Хутчэй за ўсё, і тое, і другое. Раскажу аб такіх эпізодах з сваёй ваеннай біяграфіі. Калі немцы выйшлі на раку Церак і хацелі адразу яе фарсіраваць, мы бомбавымі ўдарамі рушылі іх пантонныя пераправы. Бамбілі чыгуначныя масты, скапленні жывой сілы і тэхнікі. Каля 6 тысяч варожых салдат і афіцэраў, 200 танкаў засталіся толькі пад Маздокам у «даліне смерці», як называлі яе самі акупанты. Дзесьці тут знайшоў сваю смерць і камандуючы 1-й нямецкай танкавай арміі фон Клейст...

Быў выпадак, які проста немагчыма растлумачыць: наш самалёт літаральна «клюнуў» у зямлю — і ўсе засталіся жывымі. Шасі не выпускалі, каб не зачапіцца за хлеў, што стаяў на ўскрайку аэрадрома, — але дах зачапіла вінтамі. Маторы заглохлі, машына апусціла нос, «клюнула», я ўбачыў зямлю і паспеў толькі падумаць: канец (не «канец», а мацернае слова). Потым расказалі: у час удару кабіна адламалася, у ёй і без яе каціўся дзесяткі метраў па мёрзлай зямлі...

Зараз, успамінаючы перажытае ў вайну, я пачынаю думаць, што нейкая сіла мяне быццам бы ахоўвала.

**— Узгаданы эпізод — не адзіны выпадак дзівоснага выратавання?**

— Не. Лямалі з сябрам, Лёшкам Андрэевым. Зайшлі на бамбёжку, але асколак зенітнага снарада трапіў Лёшку ў жывот і застаўся ў пазваночніку. Лёшка гаворыць: «Пакіньце машыну, я паранены». Не мог пакінуць параненага сябра: мы пакляліся, што ў нас будзе аднолькавы лёс... Машына зноў уваходзіць у піке. Амаль непрытомны Лёшка схапіў штурвал, пацягнуў на сябе. Машына робіць «казла», нас кідае, б'е аб сценкі кабіны: думаю, хоць бы хутчэй мяне забіла! Ад моцных udараў страціў прытомнасць. Ачнуўся — радыст прасякае сякерай дзірку, каб выцягнуць мяне з кабіны. Падышлі да Лёшкі — не зразумела, ёсць у яго пульс ці не. Раздзіраем камбінезон — кішкі выпаўзаюць. Я зняў кашулю, прывязаў іх... Потым Лёшка смяяўся: у яго кішкі на 5 метраў карацейшыя сталі, таму яму трэба больш есці і выпіваць часцей.

**— З пазіцыі сённяшняга часу вельмі складана зразумець: людзі не ратавалі ўласныя жыцці. Вы сказалі: не маглі пакінуць параненага сябра...**

— Сапраўды так. Я шмат пра гэта думаю, успамінаю сваіх таварышаў. Мы часта гаварылі: будзем або жыць, або паміраць разам... Галоўнае — выстаяць. Я не змог бы жыць, не стрымаўшы слова — перад самім сабой і перад людзьмі сорамна было б...

**— Некаторыя гісторыкі, журналісты, пісьменнікі зараз выступаюць з кардынальнай пераацэнкай падзей Вялікай Айчыннай вайны. Напрыклад, Васіль Быкаў у адным з артыкулаў піша: на Беларусі вайна, па сутнасці, была не Вялікай Айчыннай, а грамадзянскай і г. д.**

— З Быкавым у нас вельмі добрыя адносіны былі і застаюцца... У любым грамадстве існуюць самыя розныя погляды на адну і тую ж падзею — гэта нармальна. Былі раней і цяпер ёсць і прыхільнікі перабудовы, і прыхільнікі Савецкай улады, і камуністы, і антыкамуністы... Але ў сваёй ацэнцы вайны Васіль, мне здаецца, памыляецца: яшчэ да пачатку вайны немцы паставілі задачу пэўным чынам абыходзіцца са славянамі — і яны выконвалі гэтую праграму. А тое, што частка нашых людзей стала на бок немцаў — дык, напэўна, немцы і іх бы прыкончылі, калі б ім удалося перамагчы ў вайне.

Мы пацярпелі паражэнне ў «халоднай» вайне. Пераможцы дыктуюць нам паводзіны, зараз ідуць атакі на нашага прэзідэнта і на Беларусь: рэспубліка аказвае нейкае супраціўленне, а Расія і іншыя краіны ў гэтай халоднай вайне ўжо ўзнялі рукі.

**— «Пераліцоўка» гісторыі мінулай вайны ідзе пад эгідай ліквідацыі «белых плямаў», якія, безумоўна, мелі месца...**

— Хіба можна пярэчыць супраць таго, што хтосьці бярэцца нешта дасказаць — каб ліквідаваць «белыя плямы»? Кожны сумленны чалавек пагодзіцца, што павінна ўсталёўвацца праўда. Аднак калі пачаўся «выкрывальніцкі» працэс, пайшла суцэльная «чарнуха», якая захліснула ўсё — нічога святога не пакінула. Хлусня становіцца ўсё больш нахабнай. Разлік, відаць, на недасканаласць інтэлекту, адукаванасці, здольнасцей чытачоў, спажыўцоў інфармацыі. Гэта ж зневажальна, калі відавочны падман падаецца са спасылкай на нейкія дакументы — прыпудрываецца іншай хлуснёй. Думаю, далей гэты працэс яшчэ больш будзе ўзмацняцца. Чаму? У Расіі, і не толькі там, пачаліся пратэсты з нагоды існуючых працэсаў: хіба мог хто ўявіць, што пры «дэмакратычнай сістэме» чалавек можа працаваць год і не атрымаць за гэта на кавалак хлеба. Увачавідкі, у апошні час абазначыўся нейкі пералом. Акрамя элементарнага эканамічнага патрабавання заплаціць за работу, пачалі з'яўляцца палітычныя лозунгі. Таму замест хлеба, мабыць, хочуць даць відовішчаў?.. Насаджаецца так званая «масавая культура» — па сутнасці, бескультур'е. У песнях поўная бессэнсоўнасць, у музычным змесце замест мелодыі — рытміка, прычым агрэсіўная, і на экране мітусня паўраздзетай публікі. Усё. І нікуды ад гэтага не дзенешся.

**— Вы за цэнзуру выступаеце, Аляксандр Трыфанавіч?**

— Не! Але павінна быць у кожнага свая ўласная цэнзура — сумленне журналіста, пісьменніка, мастака, настаўніка, даследчыка. Разуменне, «что такое хорошо и что такое плохо».

**— У Беларусь вы прыехалі ў 44-м. Аднаўленне рэспублікі, самыя першыя крокі — раскажыце, калі ласка, пра гэта.**

— Беларусі пашанцавала на кіраўнікоў: Панамарэнка, Патолічаў, Мазураў, Машэраў — гэта людзі неардынарныя. Той Мінск, які мы бачым сёння, — гэта прадукт ідэй і намаганні Панцеляймона Кандратавіча Панамарэнкі. Не памятаю дакладна, у канцы 44-га ці ў пачатку 45-га года была нарада: як быць з амаль цалкам зруйнаваным горадам. Абмяркоўваліся тры прапановы. Першая — у Магілёве будынак аблвыканкама падобны на Дом урада, ён уцалеў, там можна размясціць асноўныя рэспубліканскія органы, ды і мяжа адсунецца далей. Другая — у Мінску суцэльныя руіны, замест таго, каб разбіраць іх, прасцей і значна эканомней узвесці горад побач, у чыстым полі (тады будуць бачныя на вякі злачынствы фашызму). Трэцяя — адбудаваць Мінск на старым месцы. За апошнюю прапанову выказаліся



крыху больш удзельнікаў нарады... Потым ужо Панамарэнка мне расказваў: ад некаторых цагляных будынкаў засталіся сцены, «каробкі». Калі аднавіць іх, адновіцца старая планіроўка горада. Ён дамовіўся з камандзірам сапёрнай дывізіі, каб за адну ноч ірвануць усе «каробкі». Так і зрабілі (папярэдне з падвалаў выселілі ўсіх, хто там жыў). Ніводнай скаргі ў Маскву: бессэнсоўна. Перад архітэктарамі і будаўнікамі была пастаўлена задача: распрацаваць новы план горада. Зараз мы маем прамыя вуліцы, прыгожыя дамы.

**— Сапраўды, усё дакладна разлічана.**

— Панамарэнка расказваў, як суправаджаў Сталіна ад Брэста да Оршы, калі той вяртаўся з Патсдамскай канферэнцыі. «Бачу — у Сталіна добры настрой, таму вырашыў папрасіць яго даць указанне Дзяржплану СССР выдзеліць Мінску сродкі на будаўніцтва дзесяці 5-павярховых дамоў. А Сталін у адказ: таварыш Панамарэнка, я меркаваў, што вы — дзяржаўны дзеяч буйнога маштабу. Хіба кіраўнік рэспублікі будзе весці гаворку пра дзесятак дамоў? Ну, дадзім вам сродкі. На будучы год вы звернецеся ў Дзяржплан зноў, а вам ужо выдзелілі летась... На вашым месцы я б паставіў так пытанне: таварыш Сталін, дапамажыце пабудаваць у Мінску, скажам, такія заводы, як трактарны і аўтамабільны. А гэта і жыллё рабочаму класу, школы, бальніцы, клубы, камунальная гаспадарка. І тады вы ўжо не прасіць будзеце, а патрабаваць...»



Фота Югена ПЯСЕЦКАГА.

**— Вы працяглы час працавалі з Машэравым...**

— У нас былі вельмі добрыя адносіны. Які гэта цікавы чалавек! Мне абавязкова трэба расказаць аб апошнім дні Пятра Міронавіча: калі зараз спрабуюць гаварыць, што хтосьці арганізаваў яго забойства... Гэта можа быць асобная размова.

**— І яна, спадзяюся, абавязкова будзе...**

— Вось гавораць: кантроль, цэнзура... Пры Мазураве, пры Машэраве не было ніякага ціску з боку ўлады — наадварот, мы абаранялі таленты ад бяздараў, кар'ерыстаў, ад усялякіх сукіных сыноў. Так спрадвечна было, і пры Сакраце, Платоне, Герадоце, — і зараз, праз тысячагоддзі, мала што змянілася: як толькі на шэрым фоне з'яўляецца хто-небудзь не зусім стандартны, тут жа яго пачынаюць нівеліраваць. Чаму? Таму што на фоне шэрасці ён — ШТОСЬЦІ, але шэрасць на яго фоне — НІШТО. Тады і пачынае дзейнічаць закон біялагічнага выжывання: свайго бліжняга з большымі здольнасцямі, ці больш працавітага, ці больш сумленнага, прыстойнага гэтыя сукіны сыны гатовы растаптаць. Яны фізічна не пераносяць таленавітых людзей. ЦК падтрымліваў усё лепшае, чым зараз ганарыцца Беларусь. Меркаванне аб народзе персаніфіцыруецца праз канкрэтных прадстаўнікоў народа. Мне пашанцавала ў жыцці: я добра ведаю многіх прадстаўнікоў навуковай інтэлігенцыі, многіх мастакоў, музыкантаў, артыстаў, пісьменнікаў.

**— А чаму вы кнігу не напішаце? Зараз модна пісаць успаміны...**

— Зараз модна пісаць толькі гадасці. А я запамінаю рэчы нестандартныя: эпізоды, якія нясуць у сабе элементы ўсмешкі, гумару. Напрыклад, пра Караткевіча я шмат ведаю, усяляк яго падтрымліваў. Угаварыў яго аб Мсціслаўлі напісаць, хаця ён і не хацеў... Вось такі кур'ёзны эпізод: звоніць Караткевіч: «Хачу да вас зайсці». Прыходзіць: «Ты ведаеш, дастаў такія таблеткі, як вып'еш — ніякага паху, ніякага перагару...» (пасля добрай п'янкі). Ён лічыў, што аказвае такую паслугу... (смяецца). Мне прыемна, што Караткевіч адносіўся да мяне «нефармальна» — не як да партыйнага чыноўніка.

**— Мабыць, ён невыпадкова хацеў падзяліцца з вамі таблеткамі? Вы не былі «трезвенником», як Машэраў?**

— Памыляецеся. Калі выпадала, як мы выпівалі? Дапусцім, падыходзіць які юбілей, збіраюцца члены бюро ЦК — кілішкі па 20 грамаў (меншых ніколі нідзе не бачыў), бутэлька каньяку. Тостаў можна нагаварыць, а каб напіцца — не. Ды ў гэтым няма патрэбы... Канешне, былі ў партыйным апараце і п'янчугі, якія з-за выпіўкі не толькі радзіму, але і маці родную маглі прадаць — такіх, на жаль, у «наменклатуру» налезла нямала...

**— Субардынацыя ў ЦК захоўвалася строга?**

— Такая была традыцыя. Дарэчы, Аляксандр Якаўлеў цяпер гаворыць, што ў барацьбе супраць Савецкай улады ён выкарыстаў партыйную дысцыпліну... Статус «першых» (не толькі па партыйнай лініі, але і па савецкай, па гаспадарчай) быў высокі, нярэдка яны злоўжывалі ўладай... Дык вось, дакладна не памятаю, Машэраў ці Мазураў прыдумаў агульныя абеды: на 5-м паверсе быў пакойчык, дзе сакратары ЦК разам абедалі. Чаму гэта важна было? На бюро ЦК мы палемізуем, але перад шырокай аўдыторыяй не вельмі тактоўна ў адносінах да кіраўніка безаглядна ўвязвацца ў палеміку. Прыходзім абедаць — тую ж самую тэму зноў раскручваем. У нефармальнай абстаноўцы я прама кажу: «Пётр Міронавіч, ну вы ж зусім не маеце рацыі!» Ён спрачаецца, прыводзіць контраргументы...

**— І хто звычайна перамагаў у спрэчцы?**

— Калі я назбіраў больш аргументаў, значыць, мне ўдаецца яго пераканаць. Калі ў яго больш аргументаў, я здаюся.

**— А якая палеміка з Пятром Міронавічам больш запомнілася?**

— У нас была доўгая палеміка наконт Верхняга горада. Некаторыя архітэктары задумалі разбурыць Верхні горад і «пасадзіць» там Палац Рэспублікі. Гэтыя прапановы раз-пораз паступалі да Машэрава... Я сустракаўся з архітэктарамі, гісторыкамі, літаратарамі, музыкантамі — амаль усе гавораць: трэба захаваць ад старога Мінска, што засталося, там жа гісторыя наша... А Пятра Міронавіча той-сёй стараўся угаварыць наконт разбурэння — ён і маўчыць, не выказваецца... Аднойчы прыйшло вялікае калектыўнае пісьмо ад інтэлігенцыі з просьбай не чапаць Верхні горад. Машэраў на бюро гаворыць: «Кузьмін падбухторвае інтэлігенцыю...» Раскрытыкаваў мяне ўшчэнт. Пасля бюро прыходжу: «Пётр Міронавіч, хочаце атрымаць славу герастрата, хочаце перакрэсліць усё зробленае Машэравым — руйнуйце Верхні горад. Вас падбіваюць да гэтага кроку; маўляў, пабудуем сацыялістычны горад. А якім быў Мінск да гэтага? Скажуць: што не спалілі немцы, разбурыў Машэраў».

**— І вы не баяліся так гаварыць?**

— У нас былі нармальныя чалавечыя адносіны, і заслуга Машэрава ў тым, што ён умеў выслухаць любы альтэрнатыўны пункт гледжання... Праз пару дзён — званок Пятра Міронавіча: ён сабраў кіраўнікоў горада, архітэктурных і будаўнічых арганізацый, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, яшчэ раз выслухаў усіх і даў заданне прадумаць, да якога месца «прывязаць» Палац Рэспублікі. Было прапанавана пабудаваць яго на месцы, дзе зараз манумент гораду-герою Мінску. Калі Машэрава не стала, Палац пачалі будаваць у цэнтры, але Верхні горад захаваўся.

**— Раскажыце, калі ласка, пра сваю сям'ю. Дзе вы пазнаёміліся са сваёй жонкай, Таісай Андрэеўнай?**

— У Сальску, куды мы ў пачатку мая 1941 года пераляцелі на палявы аэрадром. Калі пасля ранення са мной, здавалася б, ніякіх адносінаў нельга было мець (выпадзенне памяці, твар перакошаны, раны), Андрэеўна — маладая, прыгожая — магла б «зрабіць ручкай» і будзь здароў!.. Калі я злуюся на жонку, і яна на мяне — ў жыцці ўсяк бывала — я ўспамінаю вайну... Жонка мяне заўсёды падтрымлівала. Больш таго, калі ўзнікала пытанне, што дзесьці трэба пайсці супраць сумлення, Андрэеўна заўсёды была апорай, заўсёды гаварыла: «Слухай: хіба можна сумленне, усё перажытае прамяняць на нейкую выгаду?»

**— Кім працавала жонка сакратара ЦК па ідэалогіі?**

— Яна — член партыі з 43-га. Скончыла геаграфічны факультэт, працавала настаўніцай. Потым скончыла аспірантуру, выкладала ў БДУ. Працоўны стаж — больш як 40 гадоў. Дзве дачкі ў нас, унук і ўнучка, праўнук і праўнучка. 24 чэрвеня ўнучка атрымала дыплом БДУ па спецыяльнасці «міжнароднае права». Дарэчы, роўна 50 год таму ў гэты ж дзень я таксама атрымліваў дыплом БДУ.

**— Аляксандр Трыфанавіч, які свой учынак лічыце самым галоўным у жыцці?**

— Стварэнне кнігі «Памяць». Мне заўсёды балела за тых маіх таварышаў, якія не вярнуліся з вайны. З даўніх часоў удзельнікі войн адыходзілі ў небыццё — гісторыя захоўвала толькі імёны палкаводцаў. Айчынную вайну выйграў Салдат. Невядомых магіл не павінна быць. Імя кожнага абаронцы Радзімы павінны захаваць не толькі родныя і блізкія, але і ўдзячныя суграмадзяне. Таму мы паставілі задачу, каб у кожным населеным пункце была створана «Кніга Народнай Славы». Потым стала зразумела, што лепш за ўсё выдаваць кнігі «Памяць» у гарадах і раёнах і запісваць туды не толькі імёны і прозвішчы, але і здзейсненае кожным канкрэтным чалавекам. Гэтыя кнігі ўтрымліваюць звесткі не толькі пра тых, хто не вярнуўся з бою, а пра кожнага, хто змагаўся за Радзіму.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

**На здымку**: Пятрусь БРОЎКА, Кандрат КРАПІВА, Іван МЕЛЕЖ абмяркоўваюць з Аляксандрам КУЗЬМІНЫМ літаратурныя справы.



• Брэсцкі вакзал.

***Беларусь, як вядома, знаходзіцца на перакрыжаванні вялікіх пасажырскіх і грузавых патокаў, якія ідуць з краін Балтыі і Паўночна-Заходняга рэгіёна Расіі ва Украіну і назад, а таксама з Расіі на захад, у краіны Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, і ў адваротным накірунку. Вядома, што ў такой сітуацыі ў эканоміцы краіны значную ролю адыгрывае транспарт. Да таго ж тая прадукцыя, што вырабляецца на прадпрыемствах краіны, павінна быць хутка і танна дастаўлена да спажыўцоў. Для Беларусі, эканоміка якой цесна звязана са знешнім светам, гэта асабліва актуальна. Выкананне падобнай задачы без чыгуначнага транспарту проста не ўяўляецца магчымым — ён сапраўдны «нерв» эканомікі краіны. Больш таго, сёння без перабольшання можна гаварыць, што чыгуначнікі на сваіх сталёвых плячах у многім падтрымліваюць іншыя галіны эканомікі. Як вядома, экспарт тавараў кіраўніцтвам краіны вызначаны як прыярытэтны. І чыгуначнікі не на словах, а на справе ўнеслі значны ўклад у яго павелічэнне. Мяркуйце самі: каля 600 мільярдаў рублёў склалі ў мінулым годзе толькі экспартныя скідкі на чыгуначныя тарыфы для беларускіх вытворцаў. Дадайце сюды іншыя шматлікія «ўступкі» чыгуначнікаў — ільготны праезд, утрыманне жыллёвага фонду, нізкія тарыфы на прыгарадныя пасажырскія перавозкі і г. д. — і ў выніку вымалюецца не толькі «нерв» чыгуначнікаў у эканоміцы рэспублікі, але і іх сапраўды магутныя плечы, на якіх едзе асноўная маса людзей. Вось толькі б не загналі мы ўсе разам гэтую цяглавую сілу, гэты, калі хочаце, лакаматыў эканомікі.***



• Начальнік Брэсцкага аддз
чыгункі Уладзімір ЖАРА

*Уладзімір ЖАРАЛО, начальнік Брэсцкага аддзялення Беларускай ч*

# «РАЗУМЕЮЧЫ, ШТО ЭКАНОМІКА К ВЫРАШАЦЬ СВАЕ ПРАБЛЕМЫ САМІ. АЛЕ ІНАКШ ПАД ПАГРОЗАЙ

ТОЛЬКІ НАМ, чыгуначнікам, вядома, што гэтыя ахвяраванні мы літаральна адрывалі ад сябе, разумеючы пры гэтым, што патрэбна дапамога людзям, якія пацярпелі ў выніку ўрагану. Інакш нельга было. Мы так выхаваныя. Скажу больш: толькі дзякуючы той дысцыпліне, таму парадку, якія ёсць на чыгунцы, мы змаглі аказаць такую значную дапамогу. Крыўдна, што з-за яе складваецца ўражанне аб нейкім аазісе дастатку. Паверце, гэта зусім не так, праблем у нас шмат, і многія з іх нам самім не адолець. Усе мы, ад рамонтнікаў да начальніка чыгункі, імкнёмся працаваць так, каб не загубіць гэты від транспарту, каб і далей ён развіваўся, даваў прыбытак дзяржаве, каб ён быў больш зручны ў карыстанні для нашых людзей. Дарэчы, апошнім часам спецыялісты ўсё больш схіляюцца да думкі аб перавагах чыгуначнага транспарту перад іншымі відамі, асабліва звяртаючы пры гэтым увагу на бяспеку руху і экалагічны бок справы. Чыгуначны транспарт і з эканамічнага, і з экалагічнага боку выгадны для дзяржавы. За ім, перакананы, — наша будучыня.

## Думка экспертаў

***Па іх ацэнках, статыстычныя расходы, напрыклад, аўтамабільнага транспарту складаюць не больш як 20 працэнтаў ад сапраўдных расходаў, якія прыпадаюць на долю грамадства ў сувязі з аўтаперавозкамі. Такі вывад зроблены таму, што будаўніцтва і ўтрыманне аўтамабільных дарог ажыццяўляецца за кошт дзяржавы (падатковага цяжару ўсяго грамадства), а чыгунка самастойна, са сваіх даходных паступленняў, нясе непасрэдныя расходы на развіццё і ўтрыманне інфраструктуры, на гарантыі бяспекі руху, на мадэрнізацыю рухомага саставу. У той жа час энергазатраты на чыгуначным транспарце больш чым у 8 разоў меншыя, чым на грузавым аўтамабільным транспарце. Небяспека рызыкі на чыгунцы ў 24 ніжэй, чым на легкавым аўтатранспарце, і ў 2 разы ніжэй, чым пры перавозцы пасажыраў аўтобусамі. Памеры адводу зямлі для будаўніцтва чыгуначнага палатна ў 2 разы меншыя, чым для будаўніцтва аўтастрады. Агульны аб'ём выкідаў шкодных рэчываў на чыгуначным транспарце ў 30 разоў меншы, чым пры перавозцы грузаў аўтамабільным транспартам, і ў 8 разоў меншы, чым легкавым аўтатранспартам.***

**— Значнасць транспартнай сістэмы для Беларусі сапраўды вялікая. Яна захавалася і пасля распаду Саюза. Больш таго, сёння, згодна з базавай эканамічнай праграмай ЕС — развіццё транспартных камунікацый (у тым ліку паміж Заходняй і Усходняй Еўропай), Беларусь у гэтай схеме ператвараецца ў адзін з важнейшых транспартных вузлоў Еўропы...**

— Вядома, што праграма развіцця еўрапейскай транспартнай сістэмы была канчаткова зацверджана і прынята тры гады таму на канферэнцыі ЕС.

Беларусь, згодна з гэтай праграмай, становіцца краінай, праз якую пройдзе найбольш дарагі калідор: чыгуначная і шасэйная дарога Мадрыд (Лондан) — Парыж — Берлін — Варшава — Мінск— Масква.

Плануецца, што чыгунка будзе значна мадэрнізаваная. У першую чаргу скорасць руху цягнікоў павінна вырасці прыкладна ўдвая. Рэалізацыя гэтага праекта запланавана да 2010 года.

Што датычыцца ўчастка чыгункі, які праходзіць па тэрыторыі Беларусі, то сёння вядуцца работы па яго рэканструкцыі. Упраўленнем Беларускай чыгункі падрыхтаваны сур'ёзны дакумент аб мерах дзяржаўнай падтрымкі дарогі. Шкада, што да гэтага часу ўрадам ён не прыняты. Таму быў распрацаваны план работы па мадэрнізацыі тэхнічных сродкаў сіламі саміх чыгуначнікаў, згодна з якім асноўная ўвага ўдзяляецца павышэнню скорасці руху цягнікоў, рэканструкцыі станцый і ўстройстваў аўтаматыкі на перагонах для павелічэння прапускной здольнасці, а таксама мастоў і пераездаў для павышэння бяспекі руху.

**— Уладзімір Ільіч, вы закранулі праблему павышэння канкурэнтаздольнасці чыгуначнага транспарту з аўтамабільным, марскім і паветраным. Якім чынам яна павінна, на ваш погляд вырашацца? Здаецца, чыгуначнікі ці не адзіныя ў транспартнай сістэме працуюць стабільна, без збояў.**

— Каб умацаваць свае пазіцыі на рынку транспартных паслуг, мы, мяркую, павінны проціпаставіць сваім канкурэнтам не толькі эканамічныя, тэхнічныя, экалагічныя, але і перавагі сацыяльнага характару. Маю на ўвазе задавальненне шырокіх патрэб пасажыраў, высокі ўзровень камфорту і сервісу на вакзалах і ў цягніках, прымяненне гібкай сістэмы цэн, павышэнне бяспекі, дакладнасць, захаванасць і надзейнасць перавозак і г. д. Магу сцвярджаць, што ўсе гэтыя пытанні чыгуначнікі імкнуцца вырашаць, што і дазволіць больш эфектыўна канкурыраваць на рынку паслуг.

Што ж датычыць стабільнасці, то мы сапраўды робім усё магчымае і нярэдка, здаецца, нават немагчымае, каб пасажыры ў такія складаныя часы менш адчувалі гэтыя цяжкасці. Праўда, эканамічнае становішча чыгуначнікаў усё больш пагаршаецца. Хоць мы прымаем усе меры, каб захаваць галіну, каб самастойна вырашаць усе праблемы. Але нашых сіл ужо не хапае.

## Даведка

***Пасля распаду СССР, калі рэзка ўпалі аб'ёмы перавозак, а значыць і даходы, беларускім чыгуначнікам даводзілася многае пачынаць амаль з нуля. Па меркаваню спецыялістаў, начальніку Беларускай чыгункі Яўгену Валадзько ўдалося аб'яднаць людзей, нацэліць іх на добрасумленнае выкананне сваіх абавязкаў. Ён зрабіў стаўку на моцнае рэгіянальнае кіраванне чыгуначным транспартам, даўшы начальнікам аддзяленняў дарогі вялікія правы, але пры гэтым наклаўшы на іх не меншую адказнасць за стан гаспадаркі. Інакш і нельга было. Чыгунка — галіна фондаёмістая, якая патрабуе вялізных затрат. Толькі на ўтрыманне пуцей у мінулым годзе затрачана больш як 1 трлн. рублёў. Магло б быць і больш, калі б чыгуначнікі не развівалі імпартазамяшчальныя вытворчасці шпал на айчынных жалезабетонных заводах. Вялікіх затрат патрабавала стварэнне з літоўцамі СП «Мірыга», якое забяспечвае пуцейцаў камплектуючымі, а таксама набыццё механізмаў вядомай фірмы «Пласер і Тойрэр». Затое цяпер 2/3 працягласці Беларускай чыгункі ацэньваецца як выдатнае.***

***Штогод чыгуначнікам прыходзіцца абнаўляць звыш 3 тысяч вагонаў і 25 тысяч — «латаць». Раней гэта рабілася за межамі Беларусі і, вядома, патрабавала вялікіх расходаў. Пабудавалі ў Лідзе і Баранавічах два новыя рамонтныя заводы, рэканструявалі шэраг лакаматыўных і вагонных дэпо, і гэта стала абыходзіцца амаль у 6 разоў танней.***

***Як бачна, чыгуначнікі імкнуцца самастойна вырашаць свае праблемы. Таму, мабыць, і складваецца ўражанне, што тут усё добра. Аднак агульная рэнтабельнасць галіны за мінулы год не дасягнула нават 3 працэнтаў. І гэта пры тым, што эканомія эксплуатацыйных расходаў склала 420 млрд. рублёў (3,1 працэнта ад усіх расходаў), рост аб'ёмаў паслуг — 15,6 працэнта (для параўнання: у Расіі нават ва ўмовах зніжэння аб'ёмаў перавозак рэнтабельнасць склала 10 працэнтаў). Прычына — стратнасць унутрырэспубліканскіх грузавых перавозак. Узровень тарыфаў на пачатак года на Беларускай чыгунцы быў у 6,79 раза ніжэй за ўзровень расійскіх тарыфаў на гэты від перавозак.***

**— У размове з рабочымі здзівіла, што некаторыя папракаюць іх ў тым, што, маўляў, яны абдзіраюць іншых...**

— Крыўдна, паверце, чуць, што чыгуначнікі кагосьці аб'ядаюць. Маўляў, транспартная састаўляючая вельмі высокая ў кошце тавараў. Але ж, мяркую, вытворцам трэба таксама думаць, як гэты тавар рацыянальна выкарыстаць, куды яго больш выгадна рэалізаваць. Безумоўна, калі яго адпраўляюць за сотні і тысячы кіламетраў, то і транспартныя расходы адпаведна павялічацца. Больш таго, тарыфы рэгулюцца дзяржавай, якая не дазваляе нам разганяцца, ды мы і не імкнёмся забіраць у прадпрыемстваў грошы за нявыкананую работу, таму што самі ведаем, як гэта балюча. Так, жорсткае рэгуляванне тарыфаў павінна быць, але ў разумных межах, улічваючы магчымасці чыгункі. Інакш можа настаць такі час, калі нават пры існуючым на чыгунцы парадку і дысцыпліне яна не зможа выконваць сваіх функцый.

**— Вы гаварылі, што зніжаеце затраты, павышаеце прадукцыйнасць працы, эканоміце на дробязях. Чаму ж, на вашу думку, складваецца амаль крытычная фінансавая сітуацыя?**

— Крытычнай сітуацыі пакуль няма. Каб пазбегнуць крызісных з'яў, мы імкнёмся знаходзіць унутраныя рэзервы, пераглядаем эканамічны механізм нашай работы. Напрыклад на нашым аддзяленні аб'ём пасажырскіх прыгарадных перавозак павялічыўся амаль у 2 разы ў параўнанні з 1991 годам.

**— Гэта ж зразумела: білет на электрычку каштуе значна танней, чым на аўтобус. Дарэчы, многія аўтобусныя маршруты ліквідавалі...**

— Толькі чыгуначнікам вядома, якія страты мы нясём з-за гэтага. Расходы на мясцовыя і прыгарадныя пасажырскія перавозкі акупляюцца ўсяго на 20—30 працэнтаў. За 5 месяцаў гэтага года па Брэсцкаму аддзяленню чыгункі пасажыраабарот склаў 546,8 млн. пасажыра-кіламетраў, з якіх 329,5 млн. (55 прац.) прыпадае на прыгарадныя перавозкі. А калі дадаць сюды мясцовыя, то атрымаецца і ўсе 95 працэнтаў. Лічыце, якія страты нясе чыгунка.

**— Ва ўсім свеце пасажырскія перавозкі стратныя.**

— Гэта так. Але ж нават прыватныя пасажырскія кампаніі там маюць датацыі з бюджэту на пакрыццё гэтых страт не менш чым 25 працэнтаў. Сярод краін СНД у Беларусі самыя нізкія тарыфы на пасажырскія перавозкі. Яшчэ раз паўтаруся, што толькі ў нас даходы забяспечваюць расходы на мясцовых маршрутах толькі на 30,3 працэнта, у прыгарадных і таго менш — 21,5 працэнта.

## Даведка

***Беларуская чыгунка ў мінулым годзе ад пасажырскіх перавозак панесла страты больш чым на 2 трыльёны рублёў. На іх пакрыццё з бюджэту атрымана толькі 11,6 млрд. рублёў. Не кампенсаваны нават страты за праезд інвалідаў, удзельнікаў вайны, не гаворачы ўжо пра іншыя катэгорыі льготнікаў, якіх у рэспубліцы налічваецца ажно 49. Толькі ў прыгарадных напрамках прыкладныя страты ад прадастаўленых ільгот склалі ў мінулым годзе каля 150 млрд. рублёў.***

Мяркую, што датацыі на пакрыццё стратнасці пасажырскіх перавозак павінны кампенсавацца тымі, хто гэтыя льготы прадаставіў. У цывілізаваных краінах, як мы іх чамусьці называем, няма такога паняцця, як ільгота. Кожны пасажыр купляе білет, а ажыццявіўшы паездку, ідзе у аддзел сацыяльнага забеспячэння і, калі мае права, атрымлівае кампенсацыю. Бясплатна ніхто не ездзіць: ні ветэран, ні інвалід, ні тым больш той работнік, які выконвае свае звычайныя прафесійныя абавязкі.

Стратныя ў нас і ўнутрырэспубліканскія грузавыя перавозкі, чаго няма ў сусветнай практыцы. На чыгунках Расіі, іншых краін СНД міжрэспубліканскія і мясцовыя тарыфы на гэты від паслуг аднолькавыя. Інакш і не можа быць — у аснове тарыфу, як вядома, заўсёды ляжыць сабекошт. Пры перавозцы мясцовых грузаў ён заўсёды вышэй за сабекошт транзітных перавозак. У нас жа ўсё наадварот.

**— Атрымліваецца, што, па сутнасці, чыгунка з'яўляецца донарам прамысловых прадпрыемстваў у частцы мясцовых перавозак. За кошт чаго ж вы пакрываеце страты?**

— Сапраўды, айчынным прамысловым прадпрыемствам значна зніжаны тарыфы на мясцовыя перавозкі. Крыўдна, што нават пры гэтым даводзіцца чуць папрокі, што мы, маўляў, добра жывём і усіх абіраем. Гэта ж не так. Паўтаруся: за кошт дысцыпліны і парадку мы захавалі галіну, з-за чаго і стварылася ўражанне аб нашым дастатку. Паверце, робіцца ўсё гэта на апошняй мяжы. Далей — абвал. Мяркую, што ўрад, вышэйшае кіраўніцтва краіны павінны ўсё-такі звярнуць сур'ёзную ўвагу на стан чыгункі і аказаць прамую дзяржаўную падтрымку чыгуначнаму транспарту. Як гэта, дарэчы, робіцца ў той жа Расіі. За мінулы год, напрыклад, там на 24,48 працэнта забяспечана пакрыццё страт ад пасажырскіх перавозак. У Хабараўскім краі, у Іркуцкай і Пермскай абласцях поўнасцю кампенсаваны расходы, звязаныя з прыгараднымі перавозкамі. Мэрам Масквы закуплена 26 прыгарадных цягнікоў. Паміж урадам Масквы, адміністрацыяй сталічнай вобласці і Міністэрствам шляхоў зносінаў Расіі заключана пагадненне аб парадку ўзаемадзеяння па забеспячэнню прыгарадных чыгуначных перавозак і кампенсацыі страт ад іх. Пагадненнем таксама вырашаюцца пытанні ўпарадкавання льготнага прыгараднага праезду, перадачы ў муніцыпальную ўласнасць Масквы і Маскоўскай вобласці жыллёвага фонду прадпрыемстваў і арганізацый чыгуначнага транспарту, зніжэння тарыфаў на электраэнергію, выкарыстоўваемую на цягу цягнікоў, выдзяленне прамых фінансавых датацый, прадастаўленне падатковых ільгот і выдзяленне сродкаў на набыццё электрарухомага саставу для прыгарадных перавозак. Такія адносіны да праблем нашым чыгуначнікам і не сніліся. Разумеючы, што эканоміка краіны знаходзіцца ў цяжкім стане, нам самім прыходзіцца знаходзіць выйсце са складаных сітуацый. Значна знізілі вытворчыя затраты, рацыянальна выкарыстоўваем паліўна-энергетычныя рэсурсы. Напрыклад, за кошт эканоміі паліва ўдзельная вага энергарэсурсаў у агульнай структуры затрат зніжана з 18 працэнтаў у 1995 годзе да 12 працэнтаў у сёлетнім. Толькі за пяць месяцаў зэканомлена 672 тоны ўмоўнага паліва. Аплата работнікаў знаходзіцца ў прамой залежнасці ад рацыянальнага выкарыстання ўсёй матэрыяльна-тэхнічнай базы, ад эканоміі. Мы, як кажуць, «падцiснулі» сябе з усіх бакоў, нават стрымліваем зарплату чыгуначнікаў. Улічваючы напружанасць іх працы, яна зусім невысокая. За кошт укаранення новых тэхналогій, рамонту рухомага саставу ўласнымі сіламі, рацыянальнага выкарыстання матэрыялаў і паліўна-энергетычных рэсурсаў у гэтым годзе ў аддзяленні зэканомлена 12 мільярдаў рублёў. Але ж, зразумела, гэта не можа быць бясконцым, не ўсё нам самім па сілах.

Калі б не транзіт, які з'яўляецца ці не адзіным артыкулам прыбытку, то невядома, які выгляд мы мелі б сёння. Праўда, калі ў параўнанні з 1991 годам пасажырапаток на мясцовых і прыгарадных лініях вырас, то аб'ёмы грузавых перавозак знізіліся на нашым аддзяленні ў пяць разоў. Апошнім часам мы не толькі захоўваем традыцыйныя транзітныя грузапатокі, але ў канкурэнтнай барацьбе з іншымі відамі транспарту прыцягваем новыя. Аб'ёмы паступленняў імпартных грузаў за мінулы год павялічыліся ў параўнанні з пазалеташнім годам на 34,2 працэнта. Напрыклад, дзякуючы паспяховаму супрацоўніцтву Беларускай чыгункі з Міністэрствам шляхоў зносінаў Расіі арганізаваны рэгулярныя кантэйнерныя пастаўкі грузаў з Берліна і Ротэрдама ў Маскву. Распрацоўваецца праект маршрутнага саставу з Берліна, які, згодна з пагадненнем з калегамі з Германіі, Польшчы і Расіі, будзе з 1 верасня курсіраваць з адзінай накладной без пераафармлення на беларуска-польскай мяжы. Мяркую, што гэта значна зэканоміць час і павысіць прыцягальнасць нашага экалагічна чыстага транспарту.

**— Уладзімір Ільіч, хоць аблегчылі чыгуначнікі з будаўніцтвам двух рамонтных заводаў задачу па абнаўленню рухомага саставу, але, мяркую, бяс-**

